Круглае Шклоў Бялынічы

Грамадска-палітычная газета для жыхароў
Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў

# Рэгіён

САКАВІК 2013 г. № 2 (34)

# БНР

## КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

***Пытанне аб пачатку беларускай дзяржаўнасці да гэтага часу выклікае неадназначныя адказы. У расійскай імперскай гісторыі (да 1917 г.) такое пытанне ўвогуле фактычна не паўставала, бо лічылася, што ніякай беларускай дзяржаўнасці ніколі не было.***

***У савецкія часы ўжо інакш: адлік гісторыі беларускай дзяржаўнасці пачынаўся з 1 студзеня 1919 г., калі бальшавікамі была створана Савецкая Беларусь. Натуральна, усё, што было да таго, у афіцыйнай гісторыі не магло разглядацца як нешта сапраўды беларускае.***

***А калі рэч заходзіла пра Беларускую Народную Рэспубліку, то савецкіх ідэолагаў адна назва выводзіла са стану раўнавагі. Дык чаму так і што было на самой справе?***



### 1. КАРОТКІ ЭКСКУРС У ГІСТОРЫЮ

Беларуская дзяржаўнасць сваімі каранямі сягае ў далёкае мінулае. На тэрыторыі сучаснай Беларусі нашымі продкамі некалі былі створаны дзяржавы, якія аказалі вялікі ўплыў на ўсходнеславянскую і еўрапейскую гісторыю.

У IX–XIII стагоддзях існавала Полацкае княства. Старажытны Полацк быў адным з найбольш значных гарадоў на ўсходнеславянскіх землях. Палітычная вага і высокі ўзровень развіцця культуры Полацкага княства садзейнічалі згуртаванню насельніцтва. У гэты перыяд пачалося фармаванне беларускай народнасці.

У XIII–XIV ст.ст. складваецца Вялікае Княства Літоўскае. Ядром новай дзяржавы была старажытная Літва, якая знаходзілася

*(Пачатак. Працяг на стар. 2)*

## О КОМ ПЕРЕЖИВАЮТ БЕЛОРУССКИЕ ЧИНОВНИКИ?

***Убой продуктивных животных из личных подсобных хозяйств в Беларуси для их реализации должен осуществляться в специальных организациях. Такая норма содержится в постановлении Министерства сельского хозяйства и продовольствия №1 от 4 января 2013 года.***

Планировалось, что постановление начнет действовать уже в ближайшее время, однако, после кто-то из более адекватных специалистов все же сумел убедить чиновников от сельского хозяйства, что принятие нововведений необходимо отложить, и новые правила убоя животных для продажи вступят в силу только с 1 мая 2013 года. Такое решение принято постановлением Министерства сельского хозяйства и продовольствия №7 от 18 февраля, сообщает пресс-служба Минсельхозпрода.

Данным постановлением внесены изменения в постановление Минсельхозпрода от 4 января 2013 года №1 «Об утверждении Ветеринарно-санитарных правил содержания продуктивных животных в личных подсобных хозяйствах граждан», согласно которым вступление в силу последнего перенесено на 1 мая 2013 года.

Этим документом утверждаются ветеринарно-санитарные правила содержания продуктивных животных в личных подсобных хозяйствах граждан. Убой крупного и мелкого рогатого скота, свиней, а также лошадей для последующей реализации мяса

*(Начало. Продолж. на стр. 7)*

# БНР. КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Працяг. Пачат. на стар. 1)



*Герб Беларускай Народнай Рэспублікі*

на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. У межах ВКЛ завяршаецца працэс фармавання беларускай народнасці з этнонімам (назвай народа) літвіны. Навагрудак (цяперашні Навагрудак) стаў першай сталіцай ВКЛ. У XV ст. яно становіцца адным з магутнейшых дзяржаў Еўропы, а культурныя дасягненні XV–XVI ст.ст. даследчыкі называюць "залатым векам" беларускай культуры. Дзяржаўнай мовай у ВКЛ была старабеларуская, на ёй працавала адміністрацыя княства, а ў 1588 г. быў выдадзены Статут ВКЛ – агульнадзяржаўны звод законаў, самы дасканалы на той час у Еўропе.

У 1569 г., перад пагрозай страты незалежнасці у выніку вайны з Маскоўскім царствам, ВКЛ мусіла пайсці на саюз з Каралеўствам Польскім і аб'яднацца з ім у федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую. Стварэнне Рэчы Паспалітай, пры ўсіх яго адмоўных баках, дазволіла больш чым на 200 год захаваць ВКЛ як дзяржаву беларусаў і літоўцаў.

У выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай 1772 г. большая частка тэрыторыі сучаснай Беларусі была далучана да Расійскай Імперыі. Другі (1772 г.) і трэці падзелы (1795 г.) завяршылі працэс інкарпарацыі (прымусовае ўключэнне) беларускіх земляў у склад Расіі.

Расійскія ўлады пачалі ажыццяўляць працэс асіміляцыі (паглынання) беларускага этнасу шляхам яго русіфікацыі, пад якой разумееца комплекс мэтанакіраваных дзеянняў (палітычных, ідэалагічных, культурных, рэлігійных і г.д.) дзеля змены самасвядомасці народа. Беларусы павінны былі страціць сваю этнічную адметнасць, перастаць існаваць як асобны народ, ператварыцца ў сыравіну для ўмацавання іншага, у дадзеным выпадку, рускага этнасу. Карацей кажучы, з беларусаў пачалі рабіць рускіх. Такую ж палітыку ў дачыненні беларусаў праводзілі ў свой час і польскія правячыя колы, толькі называлася яна "паланізацыя".

Асноўнымі сродкамі русіфікацыі былі школа і царква. Мова адукацыі, справаводства і набажэнстваў – руская. Гісторыя роднага краю і народа падмянялася гісторыяй Расіі, усе падзеі разглядалася з пазіцый расійскіх інтарэсаў. У якасці герояў вывучаліся асобы расійскай гісторыі. Даходзіла да абсурду: славуты для Расіі дзеяч А.Сувораў, які сам прызнаваўся, што "кровушки я пролил немало", "праславіўся" на Беларусі тым, што ў 1794 г. знішчаў насельніцтва беларускіх вёсак за падтрымку паўстання пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. Карнік, які праліў нямала "кровушки" беларусаў, падаваўся ледзь не як герой Беларусі. Невыпадкова ж у савецкія часы дзесяткі калгасаў і саўгасаў былі названы ў яго гонар. Чамусьці кадэтская (малодшая) вайсковая вучэльня ў Мінску і цяпер называецца "Суворaўскай".

Пры імператрыцы Кацярыне II замест этноніма "літвіны" афіцыйна стала замацоўвацца назва "беларусы". У 1839 г. пад націскам уладаў мусіла спыніць сваю дзейнасць уніяцкая царква, якая працавала на беларускай мове. У 1840 г. імператар Мікалай I падпісаў спецыяльную пастанову, у якой забаранялася афіцыйна ужываць тэрміны "Беларусь" і "Літва". Для абазначэння далучаных беларускіх і літоўскіх земляў уводзілася бязлікая назва "Паўночна-заходні край". Беларусы павінны былі забыць нават сваю радаслоўную.

Знясілены шматлікімі войнамі і незлічонымі стратамі (удумайцеся ў лічбы: у ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. насельніцтва Беларусі скарацілася на 53%, у час Паўночнай вайны Расіі са Швецыяй 1700–1721 гг.– на 30%, за пяць месяцаў вайны Францыі і Расіі 1812 г. – на 25%), беларускі народ цярпеў многае па прынцыпу – "абы вайны не было…". Аднак ён не страціў сваіх глыбінных каранёў, з якіх зноў і зноў выраcталі вольналюбівыя змагары за будучыню беларусаў і Беларусі.

У складзе Расійскай Імперыі беларускае адраджэнне пачыналася з адраджэння культурнага. Памяць аб мінулым збіралі і замацоўвалі са сваімі вучнямі прафесары-гісторыкі М.Баброўскі і І.Даніловіч. Мова – душа народа. Гэтую ісціну разумелі і прапагандавалі пачынальнікі беларускага адраджэння Я.Баршчэўскі, У.Сыракомля, В.Дунін-Марцінкевіч і іншыя.

Адкрытую барацьбу з расійскім царызмам ў 1863 г. пачалі паўстанцы пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Высакародная мэта – вызваліцца з-пад маскоўскага прыгнёту і адрадзіць дзяржаву – не была дасягнута. У 26 год К.Каліноўскі быў павешаны на плошчы ў Вільні. Але ідэя беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння не згінула. Яна знаходзіла ўсё новых і новых прыхільнікаў у наступныя гады.

У канцы XIX – пачатку XX ст. у Расійскай Імперыі нарастаюць

(Працяг на стар. 3)

# БНР. КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг. Пачат. на стар. 1-2)*

супярэчнасці ў эканоміцы, у грамадскім жыцці і ў міжнацыянальных адносінах. Усё больш праяўляліся прызнакі гістарычнага закона гібелі ўсіх імперый. У гэты час уздымаецца новая хваля беларускага адраджэння. Яе асаблівасцю было тое, што побач з моўна-культурным адраджэннем паўставалі палітычныя сілы, якія ставілі задачу аднаўлення беларускай дзяржаўнасці. Адкрыта аб гэтым заявіла першая беларуская палітычная партыя Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, створаная ў 1903 г.

Расійскі царызм вытрымаў першы ўдар – рэвалюцыю 1905 г., але не здолеў супрацьстаяць у 1917 г. У лютым царызм быў звергнуты, Расія стала "самай вольнай краінай свету" (Ул. Ленін), але пытанне аб беларускай дзяржаўнасці заставалася адкрытым.

Разнастайныя палітычныя сілы Расіі разумелі, што ў шматнацыянальнай краіне шмат што будзе залежыць ад паводзінаў розных народаў і нацыяў, пазіцыі іх палітычных лідэраў, рэлігійных і маральных аўтарытэтаў. Таму у сваіх праграмах розныя палітычныя партыі не маглі абыйсці нацыянальныя праблемы і прапанавалі свае варыянты іх рашэння.

Найбольш радыкальную праграму па нацыянальным пытанні прапанавала леварыдыкальная частка Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі ("бальшавікі") пад кіраўніцтва Ул. Леніна. Бальшавікі абяцалі народам тое, чаго не сказала ні адна палітычная партыя Расіі: што калі яны прыйдуць да ўлады, то будзе прадастаўлена "права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы".

Ну проста выдатна, лепш не скажаш, але што атрымалася на самой справе – аб гэтым чытайце далей.



***Урад БНР***

## 2. СТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**"...дзень 25 сакавіка для таго, хто разумее і адчувае, што такое радзіма, гэта ня проста святочны дзень. Гэта дзень, які далучае яго да зямлі, на якой ён нарадзіўся".**

*Віктар Дашук, народны артыст Беларусі, кінарэжысёр.*

Вынікі Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. не задаволілі значную частку насельніцтва Расіі і бальшавікам удалося 25 кастрычніка 1917 г. арганізаваць звяржэнне Часовага ўрада. Гэтыя падзеі Ленін і іншыя лідэры бальшавікоў доўгі час афіцыйна называлі "кастрычніцкім пераваротам" і толькі з 1927 г. была замацавана назва Кастрычніцкая (яшчэ пазней – Вялікая Кастрычніцкая) сацыялістычная рэвалюцыя.

2 лістапада 1917 г. бальшавікі зацвердзілі "Дэкларацыю правоў народаў Расіі", у якой пацвердзілі ранейшае абяцанне прадаставіць нацыям права самім вызначаць свой лёс і нават, калі яны пажадаюць, права аддзяліцца ад Расіі і стварыць свае асобныя дзяржавы.

Ды толькі не дарма беларусы кажуць: абяцанка – цацанка, а дурню – радасць. І ў гэтым прышлося хутка пераканацца на ўласным вопыце.

У лістападзе 1917 г. па волі бальшавіцкай партыі быў створаны вышэйшы орган савецкай улады на Беларусі – Абласны выканаўчы камітэт саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (скарочана – Аблвыкамзах). Звярніце ўвагу: у доўгай назве гэтага органа няма ніякага напаміну пра Беларусь. Яна вызначана як Заходняя вобласць ў межах Савецкай Расіі. Падобна таму, як у 1840 г. царскія ўлады увялі назву Паўночна-Заходні край. І гэта не выпадкова. Галоўную сваю мэту – захоп улады – бальшавікі рэалізавалі. Рэвалюцыйная эйфарыя захапіла настолькі, што іх апанавала ідэя сусветнай камуністычнай рэвалюцыі, а нацыянальныя праблемы яны ўжо лічылі другаснымі. Да таго ж у самім Аблвыкамзаху пераважалі франтавікі і фактычна не было беларусаў, а яго бальшавіцкія кіраўнікі – В.Кнорыньш, К.Ландэр, А.Мяснікян і іншыя – не лічылі беларусаў за нацыю, а

*(Працяг на стар. 4)*

# БНР. КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Працяг. Пачат. на стар. 1-3)

значыць не хацелі бачыць аніякай беларускай праблемы.

Такія паводзіны бальшавіцкіх уладаў на Беларусі супярэчылі іхняй жа праграме і прынятым рашэнням. Натуральна, што беларускія патрыятычныя арганізацыі былі гэтым не задаволены. Яны лічылі неабходным існаванне на Беларусі такой улады, якая б забяспечвала рэальнае прадстаўніцтва ад розных беларускіх палітычных Беларусі і дзейнічала ў інтарэсах беларускага народа. Дзеля гэтага найбольш уплывовыя арганізацыі пагадзіліся склікаць Першы Ўсебеларускі з’езд. Галоўная мэта з’езда – вырашэнне лёсу Беларусі.

Ідэю склікання з’езда ад імя Савета Народных Камісараў Расіі падтрымаў народны камісар (міністр) па справах нацыянальнасцяў Расіі І.Сталін. Было ўзгоднена, што ўлада на Беларусі павінна належаць краёваму Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў, выбранаму на краёвым з’ездзе.

Да 14 снежня 1917 г. у Мінск з’ехаліся 1872 дэлегаты. Быў абраны прэзідыум, утвораны Савет (Рада) з’езда, які стаў кіруючым органам. 15-17 снежня адбылося абмеркаванне амаль усіх запланаваных пытанняў.

У пачатку 2-й гадзіны ночы 18 снежня 1917 года была абвешчана выніковая пастанова з’езда, паводле якой: “Замацоўваючы сваё права на самавызначэнне, абвешчанае Расійскай рэвалюцыяй, і сцвярджаючы дэмакратычны рэспубліканскі лад у межах Беларускай зямлі, для выратавання роднага краю і засцярогі яго ад падзелу і адрыву ад Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, I Усебеларускі з’езд пастанаўляе: неадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіравання краем (падкрэслена мною – А.К.), уступаючы ў справавыя дачыненні з цэнтральнай уладай, адказнай перад Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў”.

Звярніце ўвагу, паважаныя чытачы, з’езд не выступіў супраць савецкай улады і не ставіў задачу разрыву з Расіяй, як пазней будуць хлусіць бальшавіцкія ідэёлагі і паслухмяныя гісторыкі. Наадварот, нагадаем яшчэ раз: улада перадавалася Усебеларускаму савету сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Падкрэслім, што гэты пункт адпавядаў дамоўленасцям са Сталіным.

Тым не менш, адразу пасля прыняцця гэтага рашэння 18 снежня 1917 г. бальшавікі разагналі з’езд.

Узнікае пытанне: што так напалохала бальшавіцкіх лідэраў Аблвыкамзаха, калі яны прымянілі ўзброеную сілу супраць з’езда, які быў скліканы са згоды бальшавіцкіх уладаў?

А тое, што калі б у адпаведнасці з рашэннем з’езда Усебеларускі Савет сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў быў створаны, то да яго перайшло б агульнае кіраўніцтва на Беларусі. Потым дэмакратычным шляхам, праз выбары, прадугледжвалася скліканне Беларускага Ўстаноўчага Сейма.

Кіраўнікі Аблвыкамзаха ўбачылі абмежаванне іх ўлады. Аблвыкамзах, заставаўся, але ён быў павінен займацца франтавымі справамі. Сапраўды дэмакратычныя выбары такасама на задавальнялі бальшавікоў, бо яны не былі ўпэўнены, што атрымаюць большасць.

Можна пералічваць іншыя матывы, якія мелі месца, аднак відавочно, што галоўную адказнасць за разгон з’езда нясуць бальшавікі. Тут яскрава праявілася іх імкненне да аднапартыйнай дыктатуры, што сталася адной з асноўных прычынаў разгарання грамадзянскай вайны.



*Паштовая марка БНР*

Пасля разгону з’езда частка яго дэлегатаў сабралася ў чыгуначным дэпо і 18 (31) снежня 1917 г. дзе і было прынята рашэнне аб перадачы краёвай улады Радзе Усебеларускага з’езда. 21 снежня 1917 г. Рада Усебеларускага з’езда абрала са свайго складу Выканаўчы камітэт з 10 чалавек.

Такім чынам, Выканаўчы камітэт стаў законным (легітымным) упаўнаважаным органам І Усебеларускага з’езда. Гэта важна запомніць, бо і зараз некаторыя аўтары спрабуюць аспрэчыць легітымнасць рашэнняў Выканкама.

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам.

Савецкі ўрад меў намер кінуць сваіх саюзнікаў (Англію і Францыю), заключыў перамір’е і вёў з немцамі перагаворы аб сепаратным міры. Але яны поспеху не мелі і 18 лютага 1918 г. немцы зноў пачалі наступленне. Бальшавіцкі Аблвыкамзах, не здолеўшы абараніць Беларусь ад нямецкай акупацыі, 19 лютага ўцёк у Смаленск. З гэтага дня парадак у Мінску падтрымлівалі беларускія сілы.

У такіх варунках Выканкам Рады Усебеларускага з’езда, які выйшаў з падполля, абвясціў сябе найвышэйшай уладай на

(Працяг на стар. 5)

# БНР. КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг. Пачат. на стар. 1-4)*

Беларусі і вылучыў са свайго складу першы беларускі ўрад – Народны Сакратарыят Беларусі начале з Язэпам Варонкам. Аб гэтым паведамлялася ў Першай устаўнай грамаце да народаў Беларусі, апублікаванай 21 лютага 1918 г. Аднак незалежнасць Беларусі яшчэ не была абвешчана.

У гэты ж дзень у Мінску з'явіліся немцы. Як вядома, акупанты ніякай улады, акрамя ўласнай, не прызнаюць. Так было і тады: немцы прышлі як акупанты і поводзілі сябе адпаведным чынам. Яны 25 лютага выгналі з памяшкання Народнага Сакратарыята службоўцаў, забралі касу, сарвалі бел-чырвона-белы сцяг. Праз некаторы час у выніку перагавораў 28 лютага нямецкая ваенная адміністрацыя дазволіла дзейнасць Народнага Сакратарыята.

Заняўшы тэрыторыю да Дняпра, немцы па прапанове Расіі зноў пайшлі на перагаворы і 3 сакавіка 1918 г. у Брэсце паміж Расіяй і Германіяй быў падпісаны трактат аб міры (Брэсцкі мір). Пра Беларусь у тэксце трактата нават не згадвалі, яе тэрыторыю сталі расцягваць на кавалкі суседнія краіны.

Такія абразлівыя стаўленні да Беларусі выклікалі новы выбух нацыянальнай свядомасці. 9 сакавіка 1918 г. адбылося пасяджэнне Выканкама Усебеларускага з'езда, у якім таксама ўдзельнічалі прадстаўнікі некаторых мясцовых рад, земстваў, гарадскога самакіравання. На гэтым пасяджэнні была прынята Другая ўстаўная грамата, якая мела канстытуцыйны характар. Цяпер краіна абвяшчалася Беларускай Народнай Рэспублікай. Выканкам Усебеларускага з'езда быў пераўтвораны ў Раду БНР, якая атрымлівала заканадаўчую ўладу (старшыня – Іван Серада). Выканаўчая ўладу (урад БНР) ажыццяўляў Народны Сакратарыят (старшыня – Язэп Варонка).

Другая устаўная грамата сцвярджала сацыялістычныя прынцыпы, шанавала правы нацыянальных групаў, касавала прыватную ўласнасць на зямлю, якая перадавалася тым, хто на ёй працаваў, уводзіла васьмігадзінны працоўны дзень. Па сваім дэмакратызме канстутыцыйная беларуская Грамата стаіць вышэй за канстытуцыю савецкай Расіі 1918 г. У БНР ніхто не пазбаўляўся права выбіраць і быць абраным. Была абвешчана свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, "безумоўная вольнасць сумлення", недатыкальнасць асобы і жылля.

Затое забаранялася вайна супраць рэлігіі і ўсялякая цэнзура.

БНР паўставала як дэмакратычная сацыялістычная дзяржава.

Насуперак стандартным абвінавачванням савецкіх часоў, што БНР – гэта стварэнне нямецкіх акупантаў, сучасныя гісторыкі пераканаўча даказалі, што немцы да фармавання вышэйшых дзяржаўных структураў Беларусі ніякага дачынення не мелі. Чальцы Рады і ўрада БНР былі прадстаўнікамі беларускага народа, абранымі на I Усебеларускі з'езд яшчэ ў снежні 1917 г., і яны сталі на шлях рэалізацыі таго курса, які спрабаваў акрэсліць з'езд.

Разам з тым некаторыя беларускія дзеячы не былі задаволены Другой устаўной граматай, паколькі яна не вызначала адносіны з іншымі дзяржавамі. 23 сакавіка 1918 г. А.Луцкевіч прапанаваў Народнаму сакратарыяту абвясціць незалежнасць БНР.

25 сакавіка 1918 г. пасля працяглага абмеркавання на пасяджэнні Рады была прынята Трэцяя ўстаўная грамата, у якой абвяшчалася незалежнасць БНР. Ужо 27 сакавіка была апублікавана пастанова аб арганізацыі мясцовага апарата ўлады, аднак яе практычнае ажыццяўленне пачалося толькі летам.




***Паштовая марка БНР***

Урад БНР разгарнуў актыўную міжнародную дзейнасць. Незалежнасць БНР прызналі Украіна, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Чэхаславакія. Консульствы БНР былі адкрыты ў Германіі, Польшчы, Даніі, Турцыі і Расіі.

БНР выдавала сваім грамадзянам беларускія пашпарты, зацвердзіла ў якасці дзяржаўнай сапраўды нацыянальную сімволіку: свой дзяржаўны герб – "Пагоню" (узброены рыцар на кані), які з'яўляецца адным з самых старажытных у Еўропе, і свой дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. 12 красавіка 1918 г. Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай і абавязковай для грамадзянаў рэспублікі. 11 кастрычніка 1918 г. была прынята часовая Канстытуцыя БНР.

Значных поспехаў БНР дасягнула ў развіцці асветы і культуры. Паводле розных падлікаў, працавалі ад 150 да 350 школ. Падрыхтоўка настаўнікаў вялася ў Свіслацкай семінарыі і Мінскім педінстытуце. У красавіку 1918 г. была заснавана Мінская вышэйшая музычная школа, якая неўзабаве пераўтварылася ў Беларускую кансерваторыю. У красавіку 1918 г. была створана

*(Працяг на стар. 6)*

# БНР. КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Працяг. Пачат. на стар. 1-5)

падрыхтоўчая камісія для адкрыцця Беларускага універсітэта ў Мінску, у якую ўвайшлі А. Смоліч, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі і інш. Па ініцыятыве І.Луцкевіча ў 1918 г. была створана першая беларуская навуковая ўстанова – Беларускае навуковае таварыства ў Вільні. Выдаваліся беларускія кнігі, часопісы і газеты. Гэта таксама трэба мець на ўвазе, таму што ў савецкіх падручніках усё гэта падавалася як заслуга бальшавікоў. На самой справе яны ішлі па слядах дзеячоў БНР.

Як сведчанне растучага аўтарытэту БНР можна разглядаць той факт, што па запрашэнні У.Леніна новы кіраўнік урада БНР А.Луцкевіч у лістападзе 1918 г. наведаў Маскву з мэтай нармалізаваць двухбаковыя адносіны. Аднак менавіта ў гэтыя дні стала вядома аб рэвалюцыі ў Германіі і яе капітуляцыі ў вайне. Бальшавікі зноў вярнуліся да сваёй ідэі сусветнай камуністычнай рэвалюцыі. Цікавасць да БНР прапала, яна ім толькі перашкаджала. Усялякія кантакты з БНР былі спынены. Савецкая Расія не прызнала незалежнасці нашай краіны і 17 лістапада Чырваная Армія пачала наступленне на Беларусь. 10 снежня чырвонаармейцы захапілі Мінск, а 5 студзеня 1919 г. – Вільню.

Рада і ўрад БНР, каб не быць арыштаванымі, мусілі выехаць з Мінска ў Гродна, а пасля ў эміграцыю – спачатку ў Літву, потым у Чэхаславакію.

Галоўнай заслугай дзейнасці ўрада БНР у 1918 г. было тое, што ён азнаёміў грамадскасць суседніх краін з наяўнасцю беларускага нацыянальнага руху, акрэсліў этнічныя межы Беларусі, прадухіліў яе падзел паміж суседнімі дзяржавамі (Расіяй, Польшчай, Украінай, Літвой) як “нічыйнай” тэрыторыі. Пасля шматгадовага уціску і прыніжэння беларусы паўсталі як еўрапейскі




народ, які абвясціў сваё гістарычнае права на месца пад сонцам.

На гэтым гісторыя БНР, як і ўся шматпакутная гісторыя Беларусі, не скончылася. У траўні 1919 г. зноў пачынаюцца баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. На гэты раз паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Польскі ўрад марыў аб “Вялікай” Польшчы, у якую ўваходзіла б і значная частка сучаснай Беларусі, а расійскае кіраўніцтва ў сваю чаргу марыла аб стварэнні савецкай Польшчы.

К восені 1920 г. абедзьве краіны выдахліся. Частка Беларусі аказалася вольнай: палякі адышлі, чырвоныя не прышлі. 14 лістапада 1920 г. у Слуцку быў скліканы з’езд для арганізацыі ўлады і абароны Беларускай Народнай Рэспублікі. Каля 10 тыс. беларусаў уступілі ў беларускае войска. 27 лістапада пачаліся баі з Чырвонай Арміяй. Нягледзячы на няроўнасць сілаў, абаронцы БНР на лініі Копыль – Цімкавічы – Вызна (цяпер Чырвоная Слабада) нават мелі поспехі і амаль месяц улада БНР утрымлівалася ў 15 валасцях.

Омская дывізія і іншыя расійскія часці пасля месяца ўпартых баёў прымусілі беларусаў адступіць за раку Лань, дзе яны былі раззброены палякамі і змешчаны ў лагер для інтэрнаваных асобаў. Так скончыўся найбольш востры этап барацьбы за захаванне Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларускія землі зноў сталі разменнаю манетаю паміж Польшчай і Расіяй.

Нягледзячы на ліквідацыю БНР, беларускім патрыётам удалося стварыць не проста беларускі ўрад, а Беларускую Народную Рэспубліку, якая на доўгія гады зрабілася ўзорам сапраўды нацыянальнай дзяржаўнасці. Сімвалам гісторыі і сімвалам надзеі засталася Рада БНР у эміграцыі. У розныя гады яна знаходзілася ў Парыжы, ЗША, Канадзе. Зараз Раду БНР у эміграцыі узначальвае Івонка Сурвіла, беларуска, якая пражывае ў Таронта (Канада). У апошнія гады Рада папоўнілася прадстаўнікамі беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху, якія па палітычных матывах былі вымушаны пакінуць сваю радзіму.

Натуральна, можна паставіць пытанне, чаму так упарта адмаўлялася БНР у савецкія часы ды і зараз мы бачым спробы адсунуць яе на задворкі?

Часткова адказ ужо дадзены. Падкрэслім наступнае: працэс аднаўлення беларускай дзяржаўнасці выспяваў паступова, можа, нават марудна ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Еўропы і Расійскай Імперыі, але няўхільна. У неварагодна цяжкі час, насуперак перашкодам суседзяў

(Заканчэнне на стар. 7)

# БНР. КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Заканч. Пачат. на стар. 1-6)

з усходу і захаду, паслядоўна і юрыдычна бездакорна прайшла працэдура абвяшчэння БНР. За вельмі кароткі час існавання БНР беларусы зрабілі вялізарны рывок ва ўсвядамленні сябе як народа, як нацыі. Гэта выдатна разумела бальшавіцкае (найперш расійскае) кіраўніцтва, ідалогія якога не пазбавілася імперскіх поглядаў. Беларусам усімі сродкамі ўбівалі ў галовы, што БНР была створана нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Тое, чым мы павінны ганарыцца, ператваралі ў варожае для беларусаў.




Пераканаўча даказана, абвяшчэнне БНР прымусіла Леніна і яго хеўру, сцяўшы зубы, пайсці на абвяшчэнне БССР у студзені 1919 г.

Пасля распаду СССР ў 1991 г. была абвешчана незалежная Рэспубліка Беларусь, пра якую ў сучаснай Энцыклапедыі гісторыі Беларусі сказана: "РЭСПУБЛІКА БFЛАРУСЬ, незалежная унітарная дэмакратычая сацыяльна-прававая дзяржава, абвешчаная ва ўмовах распаду Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. З'яўляецца правапераемніцай Беларускай Народнай Рэспублікі (абвешчана 9.3.1918) і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (утворана 1.1.1919)". Адмаўляць БНР сёння – значыць ігнараваць волю ўласнага народа, якую ён праявіў у далёкім 1918 годзе.

Здаецца, гэта крыху пачынае разумець і сучаснае кіраўніцтва Беларусі. Нягледзячы на тое, што кіраўнік краіны неяк заявіў, што для яго беларуская дзяржаўнасць пачынаецца ад БССР, усё ж у мінулым годзе серыю канцэртаў "За незалежную Беларусь" улады пачалі таксама 25 сакавіка. Пачалося ўскоснае прызнанне значнасці гэтай даты.

І калі нават еўрапейская супольнасць у гэтым годзе адзначае 95-годдзе БНР, то чаму ж нам, грамадзянам Рэспублікі Беларусь, не адзначыць гэтую дату як адну з самых славутых у нашай гісторыі. Прыйшла пара афіцыйна засведчыць гэты дзень як галоўнае агульнадзяржаўнае свята. Але ня будзем чакаць, калі ўлады зробяць гэты крок, а самі адзначым наша свята.

Віншую ўсіх чытачоў са святам адраджэння беларускай дзяржаўнасці, са святам 25 сакавіка.

*Алесь КАДАНЧЫК, кандыдат гістарычных навук.*

# О КОМ ПЕРЕЖИВАЮТ БЕЛОРУССКИЕ ЧИНОВНИКИ?

(Продолж. Начало на стр. 1)

и продуктов убоя, должен проводиться в специальных организациях, в соответствии с установленными требованиями.

На первый взгляд, данное постановление наполнено заботой о потребителях мясной продукции. Мудрые чиновники переживают, чтобы продуктивные животные не только выращивались в надлежащих условиях, но и мясная продукция реализовывалась лишь после убоя специалистами, которые обеспечат строгий контроль качества.

С отеческой заботой чиновники Минсельхозпрода утешают владельцев домашнего скота, что требования о забое в специализированной организации относятся только к случаям, когда мясо они намерены продавать на рынке, либо в магазин или заготовителям потребкооперации. Для личных нужд везти свинью или бычка на убой «специалистам» не надо, можно зарезать в домашних условиях.

Не ясно, правда, как мудрые чиновники собираются обеспечивать убой «в специальных организациях», если в некоторых сельскохозяйственных районах Могилёвщины забойных цехов нет даже в отделах заготовок местных райпо. Более того, нет таких цехов и в абсолютном большинстве сельхозпредприятий Могилёвской области, хотя забой скота для внутренних нужд там производится регулярно. Да и не предоставляют сельхозпредприятия такую услугу населению, не их это функция.

Я сам постоянно проживаю в сельской местности, не один год содержал, выращивал и откармливал самых разных животных в своём личном подсобном хозяйстве. Поэтому хорошо могу представить алгоритм действий сельчан, которые за последние сто

(Окончание на стр. 8)

# О КОМ ПЕРЕЖИВАЮТ БЕЛОРУССКИЕ ЧИНОВНИКИ?

*(Оконч. Начало на стр. 1, 7)*

лет привыкли постоянно приспосабливаться к «мудрым» решениям белорусских и советских чиновников.

Корову или лошадь крестьянин, хочет – не хочет, на мясокомбинат может и повезет: там и забьют, и купят. Конечно, в честно заработанных деньгах потеряешь, зато забот меньше. А вот что делать с домашними свиньями, телятами или овцами, если хочешь продать мясо? Да, в Белыничах есть забойный цех в отделе заготовок местного райпо, но отвезти туда скот обойдется в немалые деньги – и за транспорт, и за забой, и за разделку, и за контроль. Вот и получается, что станет этот бычок или барашек для бабушки из деревни Староселье просто золотым. Просто неподъемной будет цена и для покупателей мясной продукции, ведь возросшие расходы, в конечном счёте, придется оплачивать им.

В итоге для сельчан остается один путь: забивать самим скот для реализации и продавать мясо «из-под полы» знакомым и односельчанам. Или поступать ещё проще – реализовывать предпринимателям. Те кого хочешь забьют – хоть корову, хоть лошадь, хоть слона, хоть козу. И тут же их купят, причем без всяких проблем и справок. А за «услугу по убою» даже денег не возьмут, они свой «навар» на бескрайних российских просторах будут иметь без всяких проблем. Что говорить, если в разговоре со мной один из таких предпринимателей высказал безграничное восхищение действиями чиновников белорусского Минсельхозпрода. По его словам, после вступления в силу постановления, работы у него значительно прибавится – никто из сельчан не захочет возиться с убоем и самостоятельно реализовывать продукцию. Ведь это для сельчан потеряет всякий смысл – возросшие расходы на убой попросту не окупятся за счет самостоятельной реализации на рынке. Поэтому благодаря «мудрым» действиям чиновников белорусского Минсельхозпрода выиграют только «предприниматели – перекупщики» и потребители их продукции в братской России. Белорусские же крестьяне и покупатели их продукции в нашей стране останутся только в проигрыше, ведь предложение мясной продукции на рынках значительно уменьшится, а цена её реализации, в связи с возросшими затратами, возрастет.

Что касается необходимости «усиления контроля за качеством», чем и мотивируют чиновники Минсельхозпрода необходимость принятия данного постановления, то этот аргумент не выдерживает никакой критики. Как специалист, который много лет проработал в сельскохозяйственной отрасли, могу утверждать, что работа ветеринарно-санитарных служб в нашей стране поставлена на достаточно высоком уровне. Абсолютно вся мясная продукции без ветеринарной и радиационной проверки и сейчас на рынок не допускается. Причём проверки эти могут проводиться неоднократно, на разных уровнях, поэтому и качество мясной продукции в нашей стране традиционно высокое.

Лично я считаю, что принятие в силу постановления Минсельхозпрода от 4 января 2013 года №1 «Об утверждении Ветеринарно-санитарных правил содержания продуктивных животных в личных подсобных хозяйствах граждан» ничего, кроме вреда, для белорусских сельчан и потре-




бителей их продукции в белорусских городах, не принесёт. Многие крестьяне попросту откажутся от выращивания мясного скота и свиней для реализации, те же, кто продолжит заниматься этим делом, просто будут реализовывать свою продукцию “предпринимателям-перекупщикам”. В результате именно они и выиграют, в первую очередь, от очередного нововведения белорусских чиновников.

Хотя, может именно их проблемы и стремились решить чиновники белорусского Минсельхозпрода? Ведь складывается впечатление, что на интересы белорусских крестьян и покупателей их продукции в белорусских же городах им действительно наплевать…

***Борис Вырвич.***

## Начальніка Круглянскай “хіміі” затрымалі за хабар у 600 долараў

На начальніка папраўчай установы адкрытага тыпу № 46 пачалі крымінальную справу.

За парушэнні парадку аднаму з вязняў неаднаразова выносіліся спагнанні, якія рабіў начальнік установы. Неўзабаве начальнік прыгразіў гэтаму вязню новай крымінальнай справай. “Залагодзіць” справу начальнік “хіміі” пагадзіўся пяць мільёнаў рублёў.

Пры перадачы грошай начальніка “хімі” затрымалі супрацоўнікі ўпраўлення ўласнай бяспекі МУС. Цяпер ён знаходзіцца пад вартай, яму пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі.

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 07.03.2013 г. у 10-00.